**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№18(682)**
**2 траўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Закаханая пара чомгаў на возеры Кагальным.



*Фота Кастуся Бахіра*



## За тры месяцы 2013 года колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася больш, чым на тры тысячы чалавек

**Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 красавіка 2013 года склала 9 млн. 460,7 тыс. чалавек. За студзень-сакавік гэтага года яна скарацілася на 3,1 тыс. чалавек.**

Як паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт, у студзені-сакавіку 2013 года ў краіне нарадзілася 28.051 дзіця, што на 1.024 больш, чым у студзені-сакавіку 2012 года, памерла 33.617 чалавек, ці на 840 больш. Натуральныя страты насельніцтва склалі 5.566 чалавек.

У студзені-сакавіку 2013 года ў параўнанні са студзенем-сакавіком 2012 года колькасць зарэгістраваных шлюбаў павялічылася на 49,4%, колькасць разводаў паменшылася на 9,5%. За названы перыяд на 1.000 шлюбаў прыпадала 530 разводаў, у студзені-сакавіку 2012 года — 875 разводаў.

Міграцыйны прырост у студзені-сакавіку 2013 года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года павялічыўся на 45,1% і склаў 2.418 чалавек. Становучае сальда міграцыі паменшыла натуральныя страты насельніцтва на 43,4% (у студзені-сакавіку 2012 года — на 29%).

*Марына Носава, БелаПАН.*

## Афіцыйны ўзровень беспрацоўя ў Беларусі на канец сакавіка склаў 0,6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва

**Узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец сакавіка 2013 года склаў 0,6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец сакавіка 2012 года — 0,7%). Такія даныя апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт.**

У эканоміцы ў I квартале 2013 года было занята 4 млн. 539,8 тыс. чалавек, што на 1% менш, чым у I квартале 2012 года. Паводле даных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец сакавіка 2013 года склала 25,3 тыс., што на 18,3% менш, чым на канец сакавіка 2012 года, і на 3,3% менш, чым на канец лютага 2013 года.

Арганізацыямі Беларусі (за выключэннем малых і мікраарганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у I квартале гэтага года было прынята на працу 175,1 тыс. чалавек, у тым ліку на дадаткова ўведзеныя працоўныя месцы — 10,2 тыс. чалавек, звольнена па розных прычынах 183,9 тыс. чалавек. З агульнай колькасці звольненых 7,1% было звольнена за прагул і іншыя парушэнні працоўнай дысцыпліны, 1% — у сувязі са скарачэннем колькасці ці штата работнікаў, ліквідацыяй арганізацыі.

*БелаПАН.*

## Па выніках красавіка інфляцыя ў Беларусі можа скласці менш як 1%, прагназуюць у Мінэканомікі

**Па выніках красавіка 2013 года інфляцыя ў Беларусі можа знізіцца да ўзроўню менш як 1%. Пра гэта заявіў намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка 25 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яго слоў, у студзені індэкс спажывецкіх цэн склаў 3%, у лютым — 2,1%, у сакавіку — 1,1%. «Цяпер мы маем даныя за некалькі тыдняў красавіка. Яны даваліся чакаць, што па выніках красавіка інфляцыя будзе значна меншай за 1%», — сказаў намеснік міністра.

Як растлумачыў Ярашэнка, высокі ўзровень інфляцыі па выніках першага квартала года (5,4%) быў выкліканы зменненнямі падаткавай палітыкі.

«Паказчыкі па росце цэн, якія адсочваюцца ў сярэдзіне месяца, маюць папярэдні і не ўсёабдымны характар. Але ёсць лічбы, якія даюць нам падставы рабіць аптымістычныя высновы», — сказаў Ярашэнка. Напрыклад, адзначыў ён, па мясе і прадукцыі з утрыманнем мяса было зафіксавана нават падзенне цэн — на 0,07%. Паводле слоў намесніка міністра, па ўсіх пазіцыях разыходжанне ў цане не перавысіла 0,1%.

Згодна з прагнозам улад Беларусі на 2013 год, інфляцыя не павінна перавысіць 12%. Пры гэтым у нядаўнім пасланні народу і парламенту Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў, каб інфляцыя за год не перавысіла 10%.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

**Пастаўскі раён**

# Паўстануць новыя заводы

■ **Кастусь Александровіч**

**Праводзіць хутка карэннае абнаўленне вытворчасці ў глыбінцы зараз паўсюдна дыктуе эканамічная сітуацыя.**

У гэтым сэнсе пашчасціла Паставам, дзе сёлета пройдзе карэнная мадэрнізацыя адразу двух заводаў райцэнтра. Побач з мясцовым малочным заводам ужо паўстаў фактычна яшчэ адзін, навейшы і самы вялікі на Віцебшчыне сырзавод па выпуску да 50 найменняў розных сыроў. Зараз спецыялісты са Славакіі вядуць мантаж і наладку сучаснага электроннага абсталявання, на якім будзе выпускацца ўжо ў жніўні да 20 тон запатрабаванай рынкам прадукцыі ў суткі. У дзяржаўную праграму развіцця льнаводства трапіў таксама і Пастаўскі льнозавод, адзін з буйнейшых у вобласці з 70-гадовай гісторыяй развіцця. На яго тэрыторыі таксама сёлета з'явіцца фактычна новае сучаснае прадпрыемства, аснашчанае высокапрадукцыйнай лініяй перапрацоўкі, якую выпускаюць у Бельгіі. Узводзіць гэты новы завод даручылі калектыву спецыялізаванага будупраўлення 126 будтрэста № 16 з Наваполацка. Вядомая ў Беларусі бударганізацыя, дарэчы, раней у райцэнтры пабудавала яшчэ два буйныя прадпрыемствы – завод радыёкампанентаў "Беліт" і ААТ "Паставымэбля". Навапалачане маюць у сябе ўласную вытворчасць металаканструкцый, багаты вопыт працы, і таму новы завод расце як на дражджах і зможа ўжо позняй восенню пачаць перапрацоўку да 10-12 тысяч тон трасты ў год , якую будуць пастаўляць не толькі гаспадаркі краю, але і суседніх Шаркоўшчынскага і Докшыцкага раёнаў. Акрамя заводскіх карпусоў будуць узведзены яшчэ новыя кацельня, лабараторыя, сучасная вагавая і тры шахі для прыёмкі і захоўвання сыравіны.

**Лепельскі раён**

# Прытуліла на сваю бяду

■ **Станіслаў Раманчук**

**Сапраўднай праблемай для пажылых людзей у глыбінцы, у некалі гаманлівых паселішчах стала адзінота і іх тужлівае выміранне.**

Тут ужо рады загаварыць з любым чалавекам, а 85-гадовая пенсіянерка з вёскі Вялікае Жэжліна, што ў Лепельскім раёне, нават прыняла да сябе жыць яшчэ маладую жанчыну. Праўда, бабуля ведала, што новая кватарантка раней жыла з яе далёкім родзічам, але потым жыццё маладзіцы пакацілася па нахільнай. 34-гадовая жанчына засталася без працы з-за цягі да спіртнога, яе пазбавілі бацькоўскіх правоў. Аднак сёлета нечакана яна пачала рабіць дарагія пакупкі, шчодра адорваць выпіўкай сваіх знаёмых і рабіць падарункі сваёй дачцы-падлетку, да якой "прачнуліся" светлыя чалавечыя пачуцці. Вось толькі ніхто спачатку не ведаў, што дармавыя грошы замешаны на смяротным граху, на чалавечай крыві. Як стала пазней вядома, сваю ахвяру жанчына забіла ў стылі вядомага кніжнага героя Раскольнікава таксама тапаром. Верагодна, сталі забойцу перасследваць розныя жахі ў яе чорнай душы, але нешта падштурхнула звярнуцца ў міліцыю з яўкай аб павіннай. Пасля такога сігналу было знойдзена і цела забітай бабулі. Эксперты пацвердзілі, што яна загінула ад чэрапна-мазгавой траўмы. Цяпер правяраецца версія, што на грэхападзенне п'янчушка пайшла быццам з-за 16 тысяч долараў зберажэнняў ахвяры, у што слаба верыцца. Якой бы ні была сума грошай, але ж гэта забойства, за якое нягодніцы можа пагражаць нават пажыццёвае зняволенне.

**Верхнядзвінскі раён**

# Скарбы роднага краю

■ **Чэслаў Якубовіч**

**У надзвычай маляўнічай мясцовасці з мноствам рэк і азёр, на стыку граніц трох дзяржаў размяшчаецца Верхнядзвінскі раён.**

Тут пад ахову дзяржавы ўзяты 28 помнікаў археалогіі і 10 – архітэктуры, па гушчыні рачной сеткі яму няма роўных у Беларусі. Парадокс, але аб такіх багацццях і багацейшай гісторыі краю людзі мала ведаюць, бо дагэтуль райцэнтр не меў свайго гісторыка-краязнаўчага музея. Аднак сёлета нарэшце задума аб яго стварэнні павінна ажыццявіцца і ў горадзе зараз заканчваюцца работы па стварэнні музейнай установы. Размясцілася яна таксама ў гістарычным будынку былога царскага суда, у якім яшчэ летась завяршылі большую частку рэстаўрацыйных работ і замянілі старыя вокны. Будучаму музею, у якога з'явіўся першы дырэктар, пашчасціла, што фарміраваннем багацейшай экспазіцыі заняўся некалькі гадоў назад апантаны краязнаўца, географ і паэт Антон Бубала. Гэты цікавы чалавек ведае раён вельмі дасканала, правёў дзясяткі пошукавых экспедыцый, склаў мартыролаг больш 200 населеных пунктаў, знішчаных ваеннай парой. Удалося навуковаму кансультанту музея разам з аднадумцамі сабраць тысячы рэдкіх экспанатаў, якія ўпрыгожаць 4 выставачныя залы. У самі вялікай з іх будуць мяняцца розныя зменныя экспазіцыі, праводзіцца выставы і нават тэатралізаваныя прадстаўленні ва ўнутраным дворыку музея. Шмат эспанатаў падаравалі сваймy музею мясцовыя жыхары, якія чакаюць адкрыцця музея падчас штогадовага Дня горада.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 02.05.13 | | | | Пятніца 03.05.13 | | | | Субота 04.05.13 | | | | Нядзеля 05.05.13 | | | | Пнд.06.05.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +3 | +10 | +17 | +12 | +7 | +9 | +14 | +9 | +8 | +10 | +15 | +10 | +7 | +10 | +18 | +12 | +6 | +12 | +19 |
| Ціск | 755 | 755 | 753 | 752 | 752 | 752 | 750 | 749 | 745 | 741 | 740 | 742 | 746 | 749 | 751 | 751 | 752 | 753 | 754 |
| Вільготнасць | 89 | 61 | 32 | 71 | 80 | 67 | 51 | 87 | 94 | 98 | 85 | 91 | 92 | 80 | 42 | 76 | 87 | 76 | 38 |
| Вецер м/сек | 2 У | 3 Пд | 3 Пд-З | 1 З | 3 Пн-У | 3 Пн-У | 5 У | 6 Пн-У | 9 У | 6 У | 2 Пн-У | 6 Пн | 4 Пн-У | 5 Пн | 4 Пн | 1 Пн | 1 Пд | 1 Пн-З | 1 Пн |

# Аб самым надзёным

## ПАЧАТАК ЛЕТА НЕ ПАРАДУЕ МНОГІХ АЙЧЫННЫХ УПРАЎЛЕНЦАЎ, БО ПАД СКАРАЧЭННЕ ТРАПІЎ ПРАКТЫЧНА КОЖНЫ ЧАЦВЁРТЫ ДЗЯРЖСЛУЖАЧЫ



■ **Аляксандр Цішкевіч**

**Прыняты ўказ прадугледжвае да 1 студзеня 2014 года таксама скарачэнні ў сферы адукацыі, сацыяльных паслуг, фармацэўтычнай дзейнасці і іншых сфер, фінансуемых з бюджэту, на 25 % у сярэднім. Дзяржсакратарыят Савета Бяспекі РБ правядзе таксама аптымізацыю пракурорскіх работнікаў, ваенных судоў і сілавых структур. Пад скарачэнне пойдуць таксама дыпламатычныя і консульскія службы Беларусі за мяжой.**

Сёлетні год застанецца ў айчыннай навейшай гісторыі, як напішуць потым у падручніках, перыядам вырашэння задачы пошукаў аптымізацыі сістэмы кіравання на фоне даволі няпростай і няўстойлівай эканамічнай сітуацыі. Беларусы доўга чакалі надыходу сапраўднай цёплай вясны, а ў многіх службовых кабінетах – з'яўлення дакументаў аб новай структуры мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў. І вось гэты ўказ пад № 168 быў падпісаны ў сярэдзіне красавіка і ўступіў у сілу, хоць канкрэтныя лічбы для грамадскасці засакрэцілі пад грыфам "Для службовага карыстання".

Толькі прэс-служба беларускага лідара паведаміла, што да 1 ліпеня пройдзе "скарачэнне колькасці работнікаў дзяржаўных органаў і арганізацый у сярэднім на 25 працэнтаў". У адпаведнасці з гэтым дакументам нельга было даведацца, каго і сколькі чалавек на месцах напросяць вызваліць займаемыя пасады, паколькі Прылажэнне 1 аб гэтым закрыта грыфам ДСП. Адразу пайшлі размовы, што на ўзроўні гар і райвыканкамаў стане меней у сярэднім на два дзясяткі дзяржслужачых. У найбольшай ступені такое скарачэнне амаль на трэць закране ўпраўленчы апарат канцэрнаў "Белнафтахім" і "Белдзяржхарчпрам".

Як вынікае з указа, пакуль невядома і тое, хто не толькі са звальняемых, але і нават тых, хто захавае свае месцы, перастануць лічыцца дзяржслужачымі. Пашчасціць тым, каго ўключылі ў дадатак 1 і 3, а вось спачуванні прымаюць работнікі дзяржаўных натарыяльных кантор, якія з новага года страціць статус дзяржслужачага. Праўда, натарыяльныя канторы скарачаць не будуць, але яны павінны будуць перайсці ў будучым на самафінансаванне і самаакупнасць. Зверху вызначылі, што ў нашай Віцебскай вобласці ў органах улады застанецца працаваць 3061 работнік без уліку абслугоўваючага персаналу і аховы будынкаў.

Дагэтуль мы толькі ганарыліся, што ў краіне быццам выпрацавана эфектыўная і зладжаная вертыкаль дзяржаўнага кіравання, якая захоўвае палітычную стабільнасць і забяспечвае выкананне пакаэчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Іраптам высветлілася, што дзяржслужачых "дзяржавы для народа" ў нас аказалася зашмат і ад іх можна без праблем пазбавіцца, нават калі прыходзіцца вырашаць вострыя праблемы мадэрнізацыі вытворчасці. Праўда, як прынята, акрамя бізуна прадугледзілі і пэўныя пранікі для тых, каго будуць звальняць.

Да моманту працаўладкавання на новую пасаду, але не болей чым на 1 год, звольненым работнікам дзяржорганаў і дзяржарганізацый, прадаставяць адтэрміноўку па выплатам крэдытаў – на жыллё і на навучанне дзяцей. За такімі ўпраўленцамі захавалі права карыстацца медустановамі, у тым ліку для асабліва прыбліжаных – найбольш прэстыжным "Рэспубліканскім клінічным медыцынскім цэнтрам", на ўзроўні абслугоўвання, якое мелі да звальнення. Самае цікавае, што летам скарачэнні адных дзяржслужачых не скончацца.

Прыняты ўказ прадугледжвае да 1 студзеня 2014 года таксама скарачэнні ў сферы адукацыі, сацыяльных паслуг, фармацэўтычнай дзейнасці і іншых сфер, фінансуемых з бюджэту, на 25 % у сярэднім. Дзяржсакратарыят Савета Бяспекі РБ правядзе таксама аптымізацыю (лічы скарачэнне) пракурорскіх работнікаў, ваенных судоў і сілавых структур. Пад скарачэнне пойдуць таксама дыпламатычныя і консульскія службы Беларусі за мяжой, скароціца колькасць, напэўна, і работнікаў сельскіх (пасялковых) выканкамаў, бо на двары ж Год беражлівасці.

На шэраг міністэрстваў, у прыватнасці тое ж Міністэрства гандлю РБ, указам ускладзены дадатковыя задачы і функцыі. Аднак у большасці развітых дзяржаў свету ніхто гандаль не кантралюе так пільна, як у нас, і не камандуе ім, бо там рынкавая свабодная эканоміка і таму цэны ніжэйшыя, чым у Беларусі. Але ў любым выпадку чарговыя новаўвядзенні – гэта дадатковы стрэс, што б там ні гаварылі, для адукаваных у большасці спецыялістаў. Пад гэты ўказ падпадае не адна тысяча чалавек і толькі бліжэйшы час пакажа, ці выйграе ад такіх змен грамадства і беларуская эканоміка. Цяперашні стан спраў паказвае, што перад Беларуссю стаяць складаныя задачы і эканамісты загадалі не быць "заложніцей посевной кампании". У любым выпадку тым упраўленцам, хто застанецца ў дзяржорганах, прыйдзецца адчуць жорсткі ціск зверху, калі не ўдасца справіцца з інфляцыяй і з ростам цэн.

## Дзень за днём

**За няпоўных чатыры месяцы сёлета цэны ў Беларусі выраслі ўжо на 5,4 %, да 1 ліпеня скароцяць чвэрць дзяржслужачых. На правядзенне веснавой сяўбы на плошчы 2,5 млн. гектараў сёлета з-за анамальнага надвор'я пойдзе 13,7 трлн. рублёў. Расійскія нафтавыя кампаніі папрасілі Мінэнерга РФ абмежаваць імпарт больш таннага беларускага бензіна. Грашовыя пераводы ў РБ з Расіі ад айчынных гастарбайтараў выраслі ў 1,5 раза. З мэтай прыцягнення замежных турыстаў у Беларусі думаюць укараніць выдачу электронных віз, паколькі малой краіне намагчыма мець пасольствы паўсюдна. Восенню пачнецца продаж білетаў на матчы чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску з 9 па 25 мая 2014 года.**

# Важнейшыя навіны свету

**Польшча.** Прэзідэнт Б. Камароўскі запэўніў свайго ўкраінскага калегу, што польскія фірмы не будуць удзельнічаць у газавых праектах з Расіяй насуперак інтарэсам Украіны.

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ пацвердзіла, што краіна неўзабаве будзе купляць нарвежскі газ замест расійскага, калі з'явіцца адпаведны тэрмінал для газу ў Клайпедзе.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч памілаваў 6 зняволеных, з іх двух міністраў з урада Ю. Цімашэнкі, асуджаных па палітычных матывах, што ўхваліла кіраўніцтва Еўрасаюза.

**ЗША.** Для падтрымкі палітыкі скарачэння бюджэтных расходаў краіны прэзідэнт Барак Абама вырашыў вярнуць 5 % са сваёй гадавой зарплаты ў 400 тысяч USD назад у казну.

**Туніс.** З дапамогай экспертаў ААН краіне вярнулі 29 млн. USD, украдзеных былым прэзідэнтам Бен Алі, экс-дыктатар кіраваў тунісцамі на працягу 23 гадоў пакуль скінулі.

**Кіпр.** З мэтай выхаду з крызісу да 2018 года на востраве будуць павышаны падаткі, дазволяць адкрываць казіно, увядуць абмежаванні для працуючых тут замежнікаў.

**Швецыя.** Міністэрства замежных спраў вырашыла аднавіць дзейнасць свайго пасольства ў Беларусі пасля закрыцця летась у жніўні і накіраваць у Мінск часовага паверанага.

**Кыргыстан.** Прэзідэнт А. Атамбаеў заявіў, што краіна цвёрда вырашыла далучыцца да Мытнага саюза Расіі, Беларусі і Казахстана і разлічвае, што гэты працэс не зацягнецца.

**Італія.** Паліцыя краіны правяла спецаперацыю, у ходзе якой арыштавала 40 чалавек па падазрэнні ў сувязях з сыцылійскай мафіяй, у тым ліку і мэра горада Монтэлепрэ.

**Англія.** Большасць англічан засмуціла смерць на 88-м годзе жыцця іх прэм'ер-міністра М. Тэтчэр, бо пры ёй яны адчулі сябе сапраўднымі членамі грамадства.

**Расія.** Дзярждума РФ падтрымала закон аб увядзенні з 2015 года для працоўных мігрантаў экзамена па расійскай гісторыі і асновах яе права для атрымання імі дазволу на працу.

**Германія.** Ля горада Бад-Херсфельд злодзеі скралі адразу 5 тон шакаладнай пасты з прыпаркаванай фуры на аўтастаянцы, раней тут яшчэ скралі шмат энергетычных напояў.

**ААЭ.** Улады афіцыйна забаранілі грамадзянам Арабскіх Эміратаў карыстацца папулярным сервісам Skype, ён заблакаваны, нельга ажыццяўляць аўдыё і відэазванкі ў Інтэрнеце.

**Фінляндыя.** Фінская кампанія Uros распрацавала мабільны тэлефон з адразу 10 SIM-картамі для актыўных людзей, у ім доступ у Інтэрнет маюць яшчэ наўтбук, смартфон.

**Чэхія.** Аўтамабільная кампанія "Skoda" пацвердзіла, што застанецца адным з галоўных спонсараў чэмпіянату свету-2014 у Мінску, хоць і ўсведамляе сітуацыю з правамі людзей.

## УРАД БЕЛАРУСІ ЗАМАРОЗІЎ РЭГУЛЮЕМЫЯ ЦЭНЫ ДА КАНЦА ГОДА



**Урад Беларусі вырашыў абмежаваць рост рэгулюемых цэн на перыяд да канца 2013 года, паведамляецца ў аналітычным аглядзе сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, які падрыхтаваны Мінэканомікі і размешчаны на сайце ведамства.»**

У цяперашні час урадам праводзіцца работа па стабілізацыі цэнавай сітуацыі. Распрацавана праграма супрацьінфляцыйных мер на 2013 год, якая накіравана на абмежаванне прыросту цэн у астатнія месяцы да канца года, у тым ліку ў сферы дзяржаўнага рэгулявання цэнаўтварэння», - сказана ў аглядзе. Мінэканомікі нагадвае, што ў першым квартале інфляцыя склала 5,4% (43% гадавога ліміту росту спажывецкіх коштаў - ІФ). Па звестках ведамства, у структуры інфляцыі за кошт свабодных цэн і тарыфаў атрымана 4,1 працэнтных пункта, або 3/4 агульнага ўзроўню інфляцыі, рэгуляваных цэн і тарыфаў - 1,3 працэнтных пункта, ці 1/4 агульнага прыросту інфляцыі. Пры гэтым больш за палову прыросту інфляцыі за I квартал (2,6 працэнтных пункта) атрымана ў сувязі з змяненнем падатковага заканадаўства (у рамках абавязацельстваў Беларусі перад АКФ ЕўрАзЭС - ІФ): адмена льготы па выплаце ПДВ на паслугі электрасувязі, якія аказваюцца насельніцтву (20%) выклікала павелічэнне тарыфаў на гэтыя віды паслуг (22,3%), павелічэнне ставак акцыза на падакцызныя тавары (на 34,5% на алкагольныя напоі, ад 55,6% да 2,1 разы на тытунёвыя вырабы ў залежнасці ад цэнавага сегмента, на 20% на нафтапрадукты) прывяло да павышэння коштаў на алкагольныя напоі на 13,9%, тытунёвыя вырабы - 32,5%, нафтапрадукты - бензін на 5,2%, дызельнае паліва на 4,6%.Акрамя таго, уклад у дынаміку інфляцыі ўнеслі рашэнні па змене рэгулюемых цэн. Так, у студзені тарыфы на перавозкі пасажыраў чыгуначным транспартам у рэгіянальным злучэння выраслі на 16,7%, у міжрэгіянальных зносінах - на 23%, тарыфы на платныя медыцынскія паслугі павялічаны на 12,5%. За кошт сезоннасці цэны на садавіну выраслі ў сярэднім на 7,7%, гароднiна - на 14,3%. У лютым тарыфы на жыллёва - камунальныя паслугі былі павышаны ў сярэднім на 5,6%, у сакавіку - яшчэ на 13,1%. Як паведамлялася, Мінэканомікі чакае ў красавіку інфляцыю на ўзроўні да 1%. Між тым, у любым выпадку, па выніках 4 месяцаў інфляцыя перавысіць 6% пры мэтавым заданні знізіць інфляцыю ў гэтым годзе да 12% з 21,8% у 2011 годзе. Па ацэнцы МВФ, інфляцыя ў Беларусі ў гэтым годзе складзе 16,8%.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасол Літвы ў РБ Э. Ігнатовіч заявіў, што летам рэзка павялічыцца колькасць пасажырскіх цягнікоў на Вільнюс, пачнуць курсіраваць і новыя 2-павярховыя вагоны.

**Астравец.** Да канца года колькасць будаўнікоў на ўзводзімай АЭС вырасце да 3 тысяч чалавек, у далейшым станцыю стануць будаваць ужо да 8 тысяч розных спецыялістаў.

**Слуцк.** Да параметраў якасці дарог І-й катэгорыі давядуць пасля рэканструкцыі трасу Р-23 адсюль да Мінска і Мікашэвіч, пакуль у РБ ёсць толькі дзве такія аўтастрады М1 і М4.

**Мінск.** Пад ціскам Расіі прышлося прадаць кантрольны пакет завода колавых цягачоў заводу з Ніжняга Ноўгарада, інакш РФ не давала грошай на мадэрнізацыю ВПК Беларусі.

**Хойнікі.** На адной з вуліц райцэнтра на 74-гадовую бабулю напалі і абрабавалі яе нявестка з унучкай з Гомеля, але мярзотніц з буйной сумай грошай неўзабаве затрымала міліцыя.

**Бабруйск.** Участак аўтатрасы М5 адсюль да Жлобіна пачалі рэканструіраваць пасля атрымання крэдыту Экспартна-імпартнага банка Кітая ў памеры 322 млн. долараў.

**Гродна.** Неаднаразова судзімы злодзей пераапрануўся ксяндзом і скраў з касцёла св. Збаўцы грошы, але яго з сужыцелькай затрымалі на чыгуначным вакзале ў Мінску.

**Чавусы.** Сурпаць ваеннага пенсіянера з вёскі Александрова распачалі крымінальную справу за тое, што падманам 15 гадоў атрымоўваў пенсію яшчэ і з Украіны, і з Расіі.

**Ляхавічы.** За падпал у знак помсты дома і аўто свайго знаёмага 36-гадовы слесар з райцэнтра атрымаў 8 гадоў турмы і выплаціць 340 млн. рублёў на кампенсацыю ўрону.

**Магілёў.** Буйнога кіраўніка, гендырэктара "Магілёўводбуда" затрымалі па падазрэнні ў атрыманні хабару, пад варту ўзялі гендырэктара Мінскага мясакамбіната за хабар 4 тыс. $.

**Івацэвічы.** Раніцай маці знайшла ў павеці ля дома ў пятлі 17-гадовага сына, навучэнца каледжа, ён прыехаў дамоў на выхадны і пайшоў з жыцця, як і бацька 11 гадоў назад.

**Ліда.** Ад удушэння чадным газам падчас адключэння сістэмы вентыляцыі на мясцовай птушкафабрыцы ля вёскі Дайнова загінула 15 тысяч курнят на суму амаль 600 млн. руб.

**Вілейка.** Пакуль маці ляжала з 2-гадовым сынам у бальніцы ў Бараўлянах, двое маладых мясцовых наркаманаў, муж з жонкай, забілі 26-гадовага бацьку, спалілі іх дом у райцэнтры

**Мядзель.** У рэанімацыйным аддзяленні райбальніцы памерла праз суткі пасля траўмы 10-месячная дзяўчынка, на яе ў доме бабулі ў Будславе ўпаў з камода тэлевізар-забойца.

**Гродна.** Група экспертаў па ініцыятыве КДБ прызнала фотаальбом "Belarus Press Photo- 2011" нібыта са здымкамі "экстрэмісцкага зместу", але яго наклад практычна раскупілі.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Новы вучэбны цэнтр Міністэрства надзвычайных сітуацый выпусціў першую партыю патрэбных спецыялістаў, пасведчанні выратавальнікаў-пажарных 7 разраду атрымаў 41 малады хлопец гэтага цэнтра.

**Гарадок.** У былой майстэрні лягсаса гарпасёлка Езерышча запрацавала прадпрыемства па рамонце рухавікоў грузавых аўтамабіляў і яно стала вельмі папулярным сярод дальнабойшчыкаў.

**Талачын.** Да канца года ў райбальніцы будзе адкрыта яшчэ адно аддзяленне гемадыялізу, па Беларусі вядзецца праца па адкрыцці яшчэ чатырох падобных хворым медцэнтраў.

**Паставы.** Будтрэст № 16 з Наваполацка пачаў мантаж канструкцый новага льнозавода па перапрацоўцы да 10-12 тысяч тон трасты ў год, фірма з Бельгіі ўстановіць тут сваю лінію.

**Віцебск.** Дзякуючы базе дадзеных з адбіткамі пальцаў следчыя раскрылі забойства 27-гадовай касіршы яшчэ летам 1996 года ў зале гульнявых аўтаматаў кінатэатра "Беларусь".

**Дуброўна.** Расійская фірма-інвестар за 1 мільён еўра пабудуе ля трасы М1 Брэст-Масква на тэрыторыі раёна гасцінічны комплекс на 50 месц з аўтастаянкай і забаўляльным цэнтрам.

**Глыбокае.** У нядзелю 21 ліпеня ў райцэнтры павінен прайсці І "Вішнёвы фестываль" з багатай культурнай праграмай і ярмаркай, ён стане новым турыстычным брэндам.

**Сянно.** За няўдалую спробу згвалтавання і забойства потым на падпітку 58-гадовай роднай цёці суд прыгаварыў 21-гадовага жыхара раёна да 15 гадоў і 1 месяца турмы.

**Друя.** Пераведзены сюды служыць Богу і людзям з Пастаў малады 27-гадовы святар Даніла Мыслянцаў змяніў прозвішча ў гонар беларускага паэта-святара К. Сваяка.

**Орша.** Падчас спецаперацыі міліцыя затрымала аўтамабіль "Опель-Астра" з мясцовым 47-гадовым беспрацоўным вадзіцелем і партыяй наркотыкаў какаіну на 150 тысяч долараў.

**Полацк.** Выступленне арганісткі Сафійскага сабора Ксеніі Пагарэлай стала ўпрыгожваннем гала-канцэрта ў Белдзяржфілармоніі ў рамках праекта "Музычная вясна".

**Лепель.** У райаддзел міліцыі звярнулася з павіннай 34-гадовая пазбаўленая дзяцей жанчына-п'яніца і прызналася ў абрабаванні і забойстве 85-гадовай вясковай бабулі.

**Верхнядзвінск.** Да Дня горада сёлета ў гістарычным будынку былога суда адкрыецца нарэшце раённы краязнаўчы музей, у ім будуць 4 вялікія залы ў якіх сабрана шмат экспанатаў.

**Браслаў.** Перад праваслаўнай Пасхай у царкву з касцёла перамясцілася выстава работ выхаванцаў мясцовага цэнтра дзяцей і моладзі "Упрыгожым Беларусь кветкамі".

**Віцебск.** За выдачу за 3 тысячы долараў ілжывай даведкі аб немагчымасці службы ў арміі па стане здароўя распачалі крымінальную справу супраць доктара гарадской бальніцы № 1.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Распачаты крымінальныя справы ў дачыненні да браканьераў, якія застрэлілі дзіка ў нацыянальным парку «Нарачанскі»

**Распачаты крымінальныя справы ў дачыненні да браканьераў, якія застрэлілі дзіка ў нацыянальным парку «Нарачанскі». У іх канфіскаваны карабін, самастойна зроблены з дэталяў вінтоўкі Мосіна часоў Першай Сусветнай Вайны.**

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю УУС Мінскага аблвыканкама, у 3.00 27 лютага блізу вёскі Лук'яновічы Мядзельскага раёна, на тэрыторыі лясного масіву Нарачанскага парку, супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай Інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце пачулі стрэлы. Разам са следча-аператыўнай групай Мядзельскага РАУС інспектары выбылі на месца здарэння і знайшлі сляды аўтамабіля.

Транспартны сродак удалося дагнаць. У «Фальксвагене» знаходзіліся двое мужчын. Як высветлілася падчас разбору, 55-гадовы жыхар Мядзела, работнік Мядзельскай ратавальнай станцыі Асвода, разам з сябрам напярэдадні прыехаў у лес з мэтай незаконнага палявання. Застрэліўшы дзіка, сябры вырашылі паехаць, а тушу забраць пазней.

Акрамя кампенсавання дзяржаве кошту забітага дзіка (6 мільёнаў рублёў), пасля праведзенай праверкі і экспертызы Мядзельскім раённым аддзелам Следчага камітэта ў дачыненні да браканьераў была распачата справа на падставе арт. 282 КК (незаконнае паляванне), а непасрэдна ў дачыненні да стралка — яшчэ і на падставе ч. 2 арт. 295 КК (незаконныя дзеянні з агнястрэльнай зброяй).

*В. Будкевіч, БелаПАН.*

Глыбокае, воз. Кагальнае.



Фота Кастуся Бахіра



# Новая стодаляравая купюра пабачыць свет у кастрычніку

Абноўленая купюра наміналам у 100 даляраў ЗША паступіць у абарачэнне 8 кастрычніка 2013 г.

Чакаецца, што пры вырабе купюры будуць выкарыстаныя новыя, больш дасканалыя тэхналогіі абароны ад падробкі.

Так, на банкноце з'явіцца сіняя 3-D паласа, на якой будзе намаляваны звон і лічба 100.

Нязменным застанецца партрэт Бенджаміна Франкліна, аднаго з бацькоўзаснавальнікаў ЗША.

Як адзначаецца ў паведамленні, купюры, якія цыркулююць цяпер, былі выпушчаныя з 1990 па 1996 год. Паводле ацэнак экспертаў, дзве траціны з іх знаходзяцца па-за межамі ЗША.



# Другі беларуска-латвійскі форум пароднёных гарадоў пройдзе сёлета ў маі ў Даўгаўпілсе

**Правядзенне другога беларуска-латвійскага форуму пароднёных гарадоў запланавана ў маі гэтага года ў Даўгаўпілсе.**

Як паведамляе прэс-служба МЗС Беларусі, 25-26 красавіка адбылася рабочая паездка пасла Беларусі ў Латвіі Аляксандра Герасіменкі ў гарады Даўгаўпілс і Краславу.

Пасол Герасіменка і генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Віктар Гейсік правялі сустрэчу з кіраўніцтвам гарадской думы, падчас якой абмеркаваныя пытанні падрыхтоўкі другога беларуска-латвійскага форуму пароднёных гарадоў. Яго правядзенне запланавана на 16-18 мая ў Даўгаўпілсе.

Падчас знаходжання ў Краславе Герасіменка і Гейсік узялі ўдзел у рабочым пасяджэнні дэлегацый Віцебскай вобласці і Латгаліі ў межах еўрарэгіёну «Азёрны край», на якім абмяркоўваліся пытанні ўдзелу Віцебскай вобласці і Латгальскага рэгіёну ў еўрапейскім праекце «Паляпшэнне кулінарнага сэрвісу ў Латгальскім і Віцебскім рэгіёнах, заснаваўчыся на канцэпцыі кулінарнай спадчыны» (BELLA CUISINE).

Беларускія дыпламаты ўзялі таксама ўдзел у працы II Міжнароднай Даўгаўпілскай канферэнцыі па турызме.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

## З чытацкай пошты

# Залаты доктар пакідае Глыбокае

*«Бяда прыходзіць нечакана, і вялікае шчасце, што ратавальным анёлам да нас спяшаюцца праз ноч і сцюжу, у дождж і завіруху людзі ў белых халатах. Нехта скажа – у іх такая праца. Так, гэта іх праца. Аднак працу можна рабіць, як штодзённую звычку, а можна укладваць у яе душу і сэрца.*

*Дык вось менавіта сёння я хачу выказаць словы самай шчырай падзякі майму збавіцелю, Яўгену Мар'янавічу Мешкісу, хірургу Глыбоцкай раённай бальніцы. 10 дзён я бачыў Вас, слухаў Вашы крокі ў калідоры, слухаў Вашы скупыя, але такія патрэбныя словы. Ваша ўпэўненасць была бальзамам для мяне і акружаючых. Вашаму вопыту, гадамі назапашанаму прафесіяналізму, гарэнню на рабоце маглі б пазайздросціць і адмыслоўцы ў японскай клініцы, а наша рэчаіснасць уздымала вашу працу да ўзроўню гераізму.*

*Дай жа Божа, табе сілы, дарагі наш Доктар! Шчыры дзякуй ад мяне і ўсіх тых, хто быў побач са мной пад Вашай апекай. Нізкі паклон анастазіёлагу Пятру Васілевічу, усім урачам, медыцынскім сёстрам і санітаркам, якія дапамаглі мне вярнуцца да жыцця».*

Гэтыя радкі пад загалоўкам «Шчыра дзякую» былі надрукаваныя ў газеце «Вольнае Глыбокае» ад 25.10.2007 г. Сёння ўзрушыла навіна, што наш залаты хірург пакідае Глыбокае. Я станаўлюся на калені і прашу Яўгена Мешкіса не пакідаць глыбачан без надзеі на Вашую дапамогу ў крытычную гадзіну. Шчыра спадзяюся, што кіраўнікі бальніцы і горада зробяць ўсё магчымае, каб залаты доктар застаўся ў горадзе Глыбокае.

*Генадзь Плавінскі.*

# У Беларусі плануецца забараніць рэгістрацыю паляўнічых сабак без радаслоўных дакументаў

**Як паведаміў БелаПАН старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў» (БТПР) Юрый Шумскі, такое рашэнне прынята па выніках Рэспубліканскай канферэнцыі экспертаў па паляўнічай сабакагадоўлі, якая прайшла 23 красавіка ў Мінску, з улікам росту ў краіне колькасці сабак невядомага паходжання і без радаслоўнай. Планууецца распрацаваць пастанову, якая замацуе гэта рашэнне на заканадаўчым узроўні. Як заявіў Шумскі, новаўвядзенне дазволіць стымуляваць у Беларусі племянную сабакагадоўлю, адбор і племянную працу з сабакамі.**

Галоўны кінолаг БТПР Таццяна Чумакіна сказала БелаПАН, што новаўвядзенне таксама скіравана супраць крадзяжу паляўнічых сабак. Паводле яе слоў, большасць зарэгістраваных паляўнічых сабак без радаслоўнай гэта, як правіла, выкрадзеныя племянныя сабакі з высокімі якасцямі. Таксама сустракаюцца сабакі без радаслоўнай, атрыманыя пры скрыжаванні дзвюх паляўнічых парод неспецыялістамі. Яны могуць мець высокія якасці, але даваць непрыдатнае да паляўнічага патомства, якое папаўняе рады бяздомных жывёл.

З гэтага часу, адзначыла спецыяліст, пры рэгістрацыі паляўнічага сабакі неабходна будзе прад'явіць не ветэрынарны пашпарт з адзнакай пра чыпіраванне ці клеймаванне. Гэта дазволіць выключыць рэгістрацыю крадзеных жывёл і нядобрасумленнае распладжванне сабак.

Паводле слоў Чумакінай, у еўрапейскіх краінах існуюць розныя падыходы да рэгістрацыі паляўнічых сабак. Ва Украіне, Расіі, Германіі рэгіструюць толькі сабак з радаслоўнай, прычым ва Украіне і Германіі яны павінны падчас выпрабаванняў пацвердзіць свае паляўнічыя здольнасці. Пры гэтым, напрыклад, у Польшчы для рэгістрацыі паляўнічага сабакі няма неабходнасці ў радаслоўнай.

Як паведаміла спецыяліст, на 1 студзеня ў Беларусі зарэгістравана 13 тыс. 775 паляўнічых сабак з радаслоўнымі дакументамі і 17 тыс. 866 — без іх. Адмена рэгістрацыі сабак без радаслоўнай не адаб'ецца на ўжо зарэгістраваных жывёлах, адзначыла спецыяліст.

*А. Янушэўская, БелаПАН*

# Масавая гібель пчол можа прывесці да сусветнага голаду



Масавая гібель пчол, якая назіраецца ва ўсім свеце, можа стаць сапраўднай катастрофай для ўсяго чалавецтва, мяркуюць навукоўцы. Па словах Жыля Ратыя, прэзідэнта Міжнароднага кангрэса пчалярскіх асацыяцый, узровень смяротнасці пчол на сёння складае 20-40%.

Каштоўнасць, якую пчолы ўяўляюць для чалавека, заключаецца не толькі ў іх здольнасці даваць мёд, але і ў здольнасці апыляць кветкі, пераляталючы з расліны на расліну.

Такім спосабам пчолы спрыяюць размнажэнню прыкладна 80% розных раслін у свеце, а гэта складае, у сваю чаргу, траціну рацыёну насельніцтва Зямлі.

Таму знікненне пчол можа пацягнуць за сабой такія сур'ёзныя наступствы, як напрыклад, вострыя недахоп мясных і малочных прадуктаў, а таксама гародніны і садавіны.

Галоўнымі прычынамі гібелі насякомых, на думку даследчыкаў, з'яўляюцца прымяненне ў сельскай гаспадарцы пестыцыдаў, вырошчванне монакультуры і няправільныя метады пчалярства.

Знікненне пчол таксама звязана з Вароа – паразітным кляшчом, які нясе гібель для гэтых насякомых.

*rosbalt.ru*



■ Фадзей Шымуковіч, *настаўнік-пенсіянер, Былы прапагандыст партвучобы г. Дзісна.*

# Што было сто і болей гадоў таму назад!

**«Самы лепшы спосаб прадугледзець, што будзе – успомніць, што было»**

*Маркіз Галіфакс.*

**«Будучыня трывожыць нас, а мінулае нас трымае. Вось чаму сучаснасць выслізгвае ад нас».**

*Гюстаў Флобер.*



Перада мной факсімільнае выданне газеты "Наша Ніва" за 1906-1908гг., выдадзенае на аснове архіўных матэрыялаў (газет таго часу) у 1992 годзе. У жніўні 2011 года я ўжо пісаў у "Вольнае Глыбокае" пра гэта, але думаю, што паўтарэнне некаторага матэрыялу і другіх першакрыніц з пункту гледжання адрознення і параўнання, як жылі нашы прадзеды і наколькі далёка абышлі іх мы за гэтыя больш чым сто гадоў, будзе цікава параўнаць многім чытачам.

Вось што пісала газета "Наша Ніва" за 7(20) лістапада 1908 года. Тут і далей я захоўваю стыль і граматыку таго часу, г.зн. як напісана ў арыгінале.

*"З Дзісненскага павета Віленскай губерні. Жменька людзей у нас пачала ужо рупіцца аб паляпшэнні жыцця свайго, закладваючы таварыствы сельскай гаспадаркі, арганізуючы выстаўкі і г.д. Апроч таго, у некаторых бальшых мястэчках (у Дзісне, Глыбокім) ёсць ужо пазакладзеныя хаўрусныя крамы. Больш усяго людзі пачалі ў нас рупіцца аб малочнай гаспадарцы. Закладаючы, як супольныя, так і прыватныя млячарні. Першую вялікую млячарню адкрылі ў 1905 годзе, каторая цяпер у год перарабляе з малака да 3 тысяч пудоў масла. Цяпер, ня лічачы малых прыватных млячарань, што перарабляюць толькі сваё малако, ёсць яшчэ 18 вялікіх заводаў (у гэтай лічбе 5 хаўрусных), каторыя пасылаюць сваё масла ў Англію. Летась паслалі на 175 тысяч рублёў. Гэтыя млячарні плацяць праз 6 летніх месяцаў па 9 кап. за гарнец (50 кап. за пуд малака), праз 3 зімовыя – па 12 кап. (70 кап. за пуд) і праз 3 восеньскія – па 10,5 кап. (60 кап. за пуд). Кепска, што ў нас не ўмеюць даглядаць кароў. Вельмі добрай каровай у нас лічыцца ўжо тая, што дае 500 гарцаў у год, а гэтакіх на вёсках можна палічыць на пальцах. У Даніі з нашых кароў толькі смяяліся б. Тамака кепскай каровай лічыцца ўжо тая, што даець 1000 гарцаў у год. Але добра будзе, калі каровы дадуць нам і па 1000 гарцаў, а лічачы па 10 кап. за гарнец, значыць, па 100 рублёў, 50 рублёў трэба адкінуць на корм, то астанецца яшчэ, апроч таго, 50 рублёў. Але пэўна мы гэтага скора не дачакаемся. Бо палепшыць сваю млечную гаспадарку можна толькі тады, як ёсць грошы або танны крэдыт. А ў нас, ведама, з грашыма цяжка і крэдыту няма".*

Гарнец – мера сыпучых і вадкіх рэчываў, якія ўжываліся ў той час. Гарнец цэхавы ровен 5,6474 літра. Не блытаць з гарцам шынкавым, які ў шынках (корчмах) ужываўся для меры гарэлкі і быў роўен 2,8237 літра. Адсюль вынікае, што лепшыя каровы нашых прапрадзедаў давалі ў той час па 2824 літры малака ў год. А марылі яны аб надоях у 5647 літраў. Дык ці далёка адышлі мы ад нашых прапрадзедаў праз 100 з лішнім гадоў.

А вось пагадзіцца з аўтарам артыкула, што нашы прапрадзеды не ўмелі даглядаць кароў не зусім карэктна. Справа ў тым, што ў той час карміцельцам лічылася не карова, а конь, як адзіная цяглавая сіла ў гаспадарцы, а таму лепшае сена ішло яму, а ў перыяд сяўбы і ўборкі ўраджаю яго яшчэ падкармлівалі і аўсом. Карове ў асноўным трасянка з саломы і сена, а ў сухастойны перыяд перад ацёлам кармілі яе саломай. Дзе ж тут чакаць добрых надояў.

Але, каб больш дакладна адказаць на пытанне, як вырашалі нашы прапрадзеды пытанне рэалізацыі малака, нам дапаможа фрагмент з артыкула "Дзісненскае масла", надрукаваны ў газеце СБ ("Беларусь сёння") ад 20.01.2009 года, аўтар гісторык Алесь Белы.

*"Конец XIX-начало XX века стали временем бурного роста артелей. Особенно много их появилось в Дисненском уезде – сегодняшних Миорском, Шарковщинском, Глубокском и Поставском районах Витебской области. Ну, какое зерноводство в низинной, болотистой, почти как Дания или Голландия долине р. Дисна?*

*Впервые крестьянская маслодельная артель возникла в Федосово, а в 1910 году в уезде работали уже 10 артелей и 14 кооперативных молочных заводов – самые известные в Голеново и Перияжнах. Успех дисненцев перекинулся и на правый берег реки Двины, вдохновив жителей соседнего Дриссенского[1] уезда. Помещики Дисненского уезда наладили контакт с кооперативом «Самопомощь» из Риги, который помог организовать сбыт в Европу. И вскоре желающие попробовать масло с берегов Дисны нашлись не только в Варшаве, Риге, Москве, но и в Гонновере, Дариштадте, Гамбурге, Париже. Особенно успешно развивался экспорт в Англию. В 1905 году из Дисненского уезда было отправлено в Англию масла на 10 тыс. руб., в 1907 году – на 175 тыс. руб., а в 1910 году – на 260 тыс. руб. Оно занимало одно из первых мест в английском рейтинге и стоило дороже, чем прочие сорта масел из России. Сбывалось без посредников через транспортную контору «Герхард и Гей» в Лондоне и Лиде».*

**Вельмі добрай каровай у нас лічыцца ўжо тая, што дае 500 гарцаў у год, а гэтакіх на вёсках можна палічыць на пальцах. У Даніі з нашых кароў толькі смяяліся б. Тамака кепскай каровай лічыцца ўжо тая, што даець 1000 гарцаў у год.**

З усяго сказанага бачна, што нашы продкі былі нінаколькі не дурней нас. Яны не дадумаліся да дарагой гігантаманіі, не вазілі сыравіну на перапрацоўку за 100 вёрст, а перапрацоўку арганізоўвалі на месцы, не затрачваючы сродкі на непатрэбныя перавозкі. Калі ж сёння мы апраўдваем 100-кіламетровыя перавозкі туды і назад, быццам бы за атрыманне высакаякаснай прадукцыі, то як адказаць на пытанне, чаму нашу прадукцыю бракуюць за нізкую якасць на рынках Расіі і Украіны, а дзісенскае масла ў Англіі каштавала на 2-4 шылінгі даражэй расійскага, нават хвалёнага Валагодскага? Чаму сёння на ўзроўні дзяржаўных самых высокіх устаноў мы не можам знайсці рынак збыту малочнай прадукцыі, апроч расійскіх і ўкраінскіх рынкаў, а 100 гадоў таму нашы памешчыкі і мужыкі без дапамогі дзяржавы збывалі масла амаль па ўсім свеце? Як бачна з тагачаснай статыстыкі, рост выпуску прадукцыі быў ашаламляльны, даходзіў не ў некалькі працэнтаў, а ў разы. І гэта без таго, што ні генерал-губернатары, ні, тым больш, імператар Мікалай II не праводзілі народ і не давалі наганяю. Далейшы рост сельскагаспадарчай галіны прыпыніла Першая Сусветная вайна, а потым падзел беларускага народа. Хоць у Заходняй Беларусі ў 30-х гадах былі памкненні аднавіць галіну, але не хапіла часу. Новыя войны перашкодзілі гэтаму.

**Дзісенскае масла ў Англіі каштавала на 2-4 шылінгі даражэй расійскага, нават хвалёнага Валагодскага!**

Для больш поўнага ўяўлення, якую карысць прыносіла для людзей і дзяржавы ў той час паспяховае развіццё малочнай галіны, можна яскрава ўбачыць з бурнага развіцця г. Дзісны ў перыяд 1900-1910 гг. У 1901 годзе ў горадзе пабудаваны 2-павярховы будынак казначэйства, коштам у 24140 рублёў. У 1903 годзе пабудаваны будынак гарадской бальніцы на 100 ложкаў, адзін з прыгажэйшых у Дзісне, коштам 41523 рублі. У 1901 годзе распачата будаўніцтва будынка "Народнай цвярозасці" коштам 9786 рублёў, у паўпадвальным памяшканні якога знаходзілася чайная, дзе можна было бясплатна атрымаць кубак чаю і булачку. У 1908 годзе на могілках была пабудавана царква коштам 6374 руб. 46 кап. У 1907 годзе пачата будаўніцтва маста праз р. Дзісна. Што адметна, што дзве берагавых апоры і дзве апоры, размешчаныя ў рацэ, абліцаваны плітамі з часанага і адшліфаванага каменя. Гэта каштавала вялікія грошы і дазволіць сабе такую раскошу мог багаты гаспадар. Значыць, у гарадской скарбонцы былі грошы. Даўжыня маста 70,123 сажняў. Горад ноччу асвятляўся 110 керасінавымі ліхтарамі, якія знаходзіліся прыкладна 200м адзін ад аднаго.

А што ж маем у малочнай вытворчасці сёння, больш за 100 мінуўшых гадоў? Нашы прадзеды марылі пра танныя крэдыты, каб палепшыць якасць дойнага статку. А ў калгасы, нягледзячы на крызіс, дзяржаўная фінансавая дапамога цячэ буйной плынню. Дарадца міністра сельскай гаспадаркі Казімір Раманоўскі заявіў, што ў мінулую пяцігодку на кожны рубель таварнай прадукцыі датацыя з дзяржбюджэту склала прыкладна таксама амаль рубель. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта на 1 снежня 2011г даўгі сельскай гаспадаркі перад дзяржавай склалі амаль 60 трыльёнаў рублёў і выраслі за год на 36,3%. У тым ліку доўг па крэдытах склаў 37,7 трыльёнаў рублёў, павялічыўшыся на 31,5%. Нават прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч вымушаны быў прызнаць, што эканоміка не вытрымлівае ніякай крытыкі. Віцэ-прэм'ер Валерый Іваноў у студзені 2012 года падвёў вынікі ў малочнай галіне і заявіў, што за 2011 год з-за дрэннага кармлення і догляду за скацінай паморкі склалі 38100 кароў і 70000 цялушак.

Топчацца на месцы вытворчасць малака і надоі. У 2011 годзе вытворчасць малака ў агульным аб'ёме па краіне ад усіх катэгорый вытворцаў зменшылася на 1,2%, хаця СПК і далі прыбаўку 1,6% пры плане 15%. У той час, як СПК атрымалі 87 новых ферм і яшчэ 100 ферм рэканструіравалі. СПК атрымалі ад дзяржавы 2,6 трыльёнаў рублей танных крэдытаў. За 2011 год экспарціравана за мяжу сельскагаспадарчай прадукцыі на 3,7 мільярды долараў. Для параўнання, Галандыя ў 5 разоў па тэрыторыі меншая за Беларусь у 2010 годзе экспарціравала сельгаспрадукцыі на 17 мільярдаў еўра. Цікава паглядзець дынаміку развіцця жывёлагадоўлі Мёрскага раёна за апошнія 25 гадоў *(гл. табліцу ўнізе).*

Заслугоўвае ўвагі тая акалічнасць, што вельмі ўжо стракатыя паказчыкі вытворчасці малака паміж гаспадаркамі. Напрыклад, за 2012 год у КУП "Язна" сярэднясутачны надой склаў 2463кг, у СПК "Папшулі" – 2954кг, амаль як 100 гадоў назад у нашых прадзедаў на ўзроўні 560 гарцаў. А вось СПК "Дрыгучы" – 5864кг, гэта ўжо тое, аб чым марылі нашы прадзеды, у межах 1000 гарцаў. Вялікая стракатасць і ўнутры гаспадарак. Напрыклад, у СПК "Любікова" ў той час, як сярэднегадавы надой па гаспадарцы 4191 кг, на ферме "Любікова" – 5308кг, а аператар-даярка гэтай жа фермы Людміла Захарэнь – 6141кг. Не могуць радаваць і паказчыкі 2013кг. У тым жа КУП "Язна" за першыя 2 месяцы надой склаў 287кг, у той час, як у КУП "Дрыгучы" – 758кг, розніца ў 2,65 разы! Сярэднераённы паказчык – 452кг, з мінусам 6кг да 2012 года.

Чытаеш у райгазеце справаздачы ў гаспадарках і дзіву даешся. Калі ў 1985-1990 гадах у кармавы баланс уваходзіла салома, і не толькі яравая, а і азімая, то цяпер якасць кармоў значна лепшая: сена, салома, сілас, канцэнтраты, ды і колькасны паказчык ого-го, па 30-36 цэнтнераў кармавых адзінак на ўмоўную галаву БРЖ. Амаль у кожнай гаспадарцы вялікі перарасход кармоў, а гэта і вялікі сабекошт прадукцыі. Да таго ж па віне "чалавечага фактара" нізкая якасць прадукцыі і замест прыбытку мільённыя страты.

Вось тут у самы раз сказаць, што не ўмеем мы даглядаць кароў, да таго ж аблянелі, многія спіліся, страцілі пачуццё адказнасці. Узнікае трывожнае пытанне – што нас чакае наперадзе?



## Дынаміка развіцця жывёлагадоўлі Мёрскага раёна за апошнія 25 гадоў

| Паказчыкі с/г вытворчасці | 1985 | 1990 | 2004 | 2007 | 2009 | 2011 | 2012 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вытворчасць малака, т | 37724 | 46259 | 27128 | 33602 | | 40996 | 41693 |
| Вытворчасць мяса, т | 8005 | 11293 | 3411 | 4365 | | 4946,2 | 5078,6 |
| Сярэдні надой, кг | 2330 | 3119 | 2688 | 3546 | 3871 | 3707 | 3803 |
| Прывага БРЖ, г | 438 | 458 | 411 | 475 | 500 | 530 | 537 |
| Ц. кармы, адз. на 1 г. | 18,7 | 20,4 | | | | | |

**Заўвагі рэдакцыі:**

[1] Дрыса – цяпер Верхнядзвінск.

